№ 90 (4035)

17 лістапада 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ТЭРРОРИЗМ!



# Атака на Париж

Масштаб произошедших в конце минувшей недели взрывов и стрельбы по мирным людям в Париже вверг Францию, да и весь мир, в состояние шока: погибли 130 человек, сотни раненых…

Президент Франции Франсуа Олланд назвал нападение «актом войны», организованным боевиками экстремистской группировки «Исламское государство». В эфире телеканала TF1 премьер-министр страны **Мануэль Вальс** заявил, что Франция находится в состоянии войны и нанесет ответный удар с целью полного уничтожения врага – джихадистской организации «Исламское государство».

### Почему это случилось?

Уже давно бедные пригороды Парижа и других городов стали благодатной почвой для деятельности исламских экстремистов. Идея джихада привлекает некоторых молодых мусульман, столкнувшихся с безработицей и пренебрежением со стороны общества.

Более 500 французских мусульман присоединились к джихадистам, воюющим в Сирии и Ираке. Это больше, чем из любой другой западной страны. Французская авиация неоднократно наносила удары по боевикам ИГ в составе возглавляемой США коалиции.

### О чем говорит выбор целей для нападения?

Мирные люди в Париже были легкими целями. Очевидно, что нападавшие хотели убить как можно больше случайных людей.

Матч между сборными Франции и Германии на стадионе Стад-де-Франс явно был потенциальной целью. Необычно то, что три смертника взорвали себя у находившихся неподалеку трех ресторанов. Ранее во Франции подобных почти одновременных взрывов не происходило.

Затем – нападение на концертный зал «Батаклан», вновь с участием смертников. Его главной целью снова было убийство обычных молодых французов, пришедших на концерт повеселиться. Более 80 поклонников выступавшей рок-группы погибли.

### Настоящая война

Газета Liberation приводит слова свидетеля, который столкнулся с нападавшим в зале «Батаклан», но сумел убежать.

Нападения застали людей врасплох и вызвали сильное потрясение.

«Музыка играла очень громко, но я услышал выстрелы. Я обернулся и увидел фигуру в шапочке, стоявшую у входных дверей. Он выстрелил в мою сторону», – рассказывает очевидец.

«Люди начали падать, бросаться на пол, мне показалось, что человек рядом со мной был убит. Я побежал. Перепрыгнул через барьер и оказался снаружи вместе с первой волной тех, кто стоял рядом со сценой. Мы выбрались через запасной выход, – вспоминает он. – Это настоящая война».

### Великобритания увеличит штат разведки и спецслужб на 15%

Это делается для повышения эффективности противодействия экстремистам, заявил премьер страны **Дэвид Кэмерон** во время саммита G20 в Турции.

По словам премьера, будет увеличено финансирование британской контрразведки МИ-5, внешней разведки МИ-6, а также Центра правительственной связи, отвечающего за ведение радиоэлектронной разведки и обеспечение защиты информации органов правительства и армии. Всего дополнительно штат этих ведомств будет увеличен на 1900 сотрудников.

Как рассчитывают британские власти, эти меры помогут стране более эффективно бороться в первую очередь с угрозами, исходящими от боевиков экстремистской группировки «Исламское государство».

Также, как ожидается, в течение пяти лет будут в два раза увеличены расходы на обеспечение авиационной безопасности.

Объявление об увеличении расходов по этим статьям правительство планировало сделать позже, но в связи с событиями в Париже раскрыло свои планы досрочно.

**Алесь ДРАБЧУК.**

ПАМЯЦЬ

# Праўда пра Курапаты

*У сталічным Палацы мастацтва яшчэ два дні будзе працаваць дакументальна-мастацкая выстава* ***«Праўда пра Курапаты. Факты, дакументы, сведчанні».***




Ініцыятарам імпрэзы выступіла грамадская ініцыятыва «Эксперты ў абарону Курапатаў» пры падтрымцы шэрагу грамадскіх арганізацый і ініцыятыў.

На выставе можна ўбачыць унікальныя дакументы, здымкі, артэфакты, кінастужкі і творы выяўленчага мастацтва.

ЗАПРАШЭННЕ

## Тры дні Кітая ў цэнтры Мінска

*18–20 лістапада ў НВЦ “БелЭкспа” пройдзе выстава тавараў кітайскіх вытворцаў.*

Тавары і паслугі прадставяць больш за 100 прадпрыемстваў і 160 прадпрымальнікаў Сіньцзян-Уйгурскага і Нінся-Хуэйскага аўтаномных раёнаў.

Тут будзе прадстаўлена літаральна ўсё: прадукты харчавання і напоі, тэкстыль, трыкатаж, касметыка, фармацэўтыка і нават будаўнічыя матэрыялы.

Адкрые выставу Беларуска-Кітайскі форум гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва. Кампаніі з КНР пазнаёмяць наведвальнікаў са сваімі дасягненнямі ў сферы турызму, адукацыі, інавацыйных тэхналогій і прамысловасці.

**Аліна ВЕТРАВА.**

СКАНДАЛ

## Стрэльба для былога дырэктара «Магілёўсаюздруку»

*Крымінальную справу экс-дырэктара «Магілёўсаюздруку», якога вінавацяць у карупцыі, аддаюць у суд.*

Следчыя выявілі, што з лютага 2014-га па сакавік 2015 года мужчына неаднаразова забіраў з касы арганізацыі выручку ад рэалізацыі прадукцыі. Такім чынам ён незаконна атрымаў больш за 285 млн рублёў.

Акрамя таго, з красавіка 2012 года па сакавік 2015-га ён загадваў падначаленым рыхтаваць заведама фіктыўныя дакументы па разліку арэнднай платы. У дакументах неабгрунтавана прымяняўся паніжальны каэфіцыент. Таксама выявілася, што дырэктар прыватнага прадпрыемства падараваў яму стрэльбу маркі «Берэта» як хабар за вырашэнне пытанняў, якія ўваходзяць у кампетэнцыю кіраўніка «Магілёўсаюздруку».

Чыноўніку прад’явілі абвінавачанне ў карупцыйных злачынствах, а таксама незаконных дзеяннях з агнястрэльнай зброяй.

Следчыя арыштавалі маёмасць і грошы абвінавачанага, а стрэльбу канфіскавалі. Падчас расследавання экс-дырэктар кампенсаваў шкоду на агульную суму больш за 290 мільёнаў рублёў. Ён знаходзіцца пад вартай.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Выпускніца Акадэміі міліцыі ўзначаліла аргкамітэт па стварэнні хрысціянска-дэмакратычнага руху

*У мінулыя выхадныя многія з тых, хто прытрымліваецца хрысціянска-дэмакратычных каштоўнасцяў, правялі ў Мінску ўстаноўчы сход па арганізацыі новага грамадскага руху.*



Старшынёй аргкамітэта стала **Вольга КАРАЛЬКОВА.**

– Паводле адукацыі я юрыст, – распавяла “Народнай Волі” сама Вольга. – Закончыла Акадэмію МУС, затым працавала ва ўпраўленні сацыяльнай абароны насельніцтва адміністрацыі Партызанскага раёна сталіцы, ва ўпраўленні жыллёвай палітыкі адміністрацыі Савецкага раёна. Давялося папрацаваць яшчэ юрыстам у прыватным будаўнічым прадпрыемстве, была старшынёй некалькіх жыллёва-будаўнічых кааператываў. А з прыхільнікамі хрысціянска-дэмакратычных каштоўнасцяў пазнаёмілася ў 2012 годзе. Сяброўка запрасіла мяне на адну з сустрэч, якую ладзілі хрысціянскія актывісты, спадабалася… І з таго часу я актыўна ўдзельнічала ў розных іх праектах – распрацоўвала шэраг рэспубліканскіх і рэгіянальных кампаній. Зараз – новая пасада і новая адказнасць.

**– Напэўна, не так шмат выпускнікоў Акадэміі міліцыі і былых супрацоўнікаў раённых адміністрацый становяцца прыхільнікамі хрысціянска-дэмакратычнага руху…**

– Так, але не трэба ўсіх чыноўнікаў грэбці пад адзін грэбень. У мяне ёсць сярод іх добрыя знаёмыя, якія падзяляюць хрысціянска-дэмакратычныя погляды, нягледзячы на тое, што знаходзяцца на дзяржаўнай службе. Можа быць, у тым і памылка апазіцыі, што яна знаходзіцца ў нейкім сваім гета і ёй падаецца, што яе ніхто не будзе слухаць. Але хрысціянскія дэмакраты хадзілі са сваімі пытаннямі і ідэямі на прыёмы і ў Міністэрства гандлю, і да намесніка прэм’ер-міністра, і ў парламент… Калі толькі лаяцца на ўсіх, седзячы на канапе, цябе ніхто не пачуе.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

КРЫМІНАЛ

## Дурныя жарты

*Мінёрам мінскага метро аказаўся п’яны ляснічы.*

У мінулую пятніцу з-за паведамлення аб закладзенай выбуховай прыладзе каля дзвюх гадзін была зачынена станцыя метро «Магілёўская». На месцы працавалі сапёры. Напрыканцы дня сталічная міліцыя распаўсюдзіла фатаграфіі хлопца, які паведаміў аб выбуховым прыстасаванні. На выхадных яго затрымалі.

Як паведамляе прэс-служба ГУУС Мінгарвыканкама, хлопца па фатаграфіі апазналі знаёмыя. Ілжэмінёру 21 год, ён жыве ў Мінскім раёне, працуе ляснічым. На пытанне, навошта ён вырашыў «замініраваць» метро, нічога выразнага адказаць не можа. У той дзень ён быў п’яны.

ТЫМ ЧАСАМ

## З-за паведамленняў пра бомбы ў Салігорску і Наваельні эвакуіравалі 250 чалавек

***У Салігорску*** на нумар 102 патэлефанаваў мужчына і сказаў, што ў адной з крам горада закладзена бомба. Супрацоўнікі МУС неадкладна выехалі на месца, эвакуіравалі 160 чалавек. Выбуховага прыстасавання не знайшлі, а жартаўніка затрымалі. Ім аказаўся 49-гадовы мясцовы беспрацоўны жыхар.

***У гарадскім пасёлку Наваельня Гродзенскай*** вобласці начальніку аховы камбіната хлебапрадуктаў п’яны беспрацоўны мужчына заявіў, што камбінат замініраваны. З-за гэтага з прадпрыемства эвакуіравалі 90 чалавек. Бомбу, канешне, не знайшлі.

ПАД ГРАДУСАМ

## Анамальны лістапад

*На гэтым тыдні тэмпература будзе на 3–8 градусаў вышэй за норму. Халадней стане толькі ў нядзелю.*

Пра надвор’е на гэтым тыдні распавёў сіноптык **Дзмітрый Рабаў**.

Так, сёння і ў сераду днём +3…+8°С, раніцай і днём на большай частцы тэрыторыі дажджы, месцамі магчымы мокры снег.

У чацвер надвор’е істотна не зменіцца, але дыскамфорту дадасць парывісты заходні вецер: парывы да 15–18 м/с. Тэмпература паветра ноччу +3…+8°С, днём +5…+10°С.

У пятніцу – дождж і вецер. Тэмпература паветра днём +5…+10°С.



У суботу на большай частцы краіны – кароткачасовыя дажджы, у асобных раёнах магчымы мокры снег. Тэмпература паветра на працягу сутак +1…+7°С.

У нядзелю пахаладае. Месцамі кароткачасовыя ападкі (дождж, мокры снег). Тэмпература паветра ноччу -4…+3°С, днём 0…+5°С.

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# «Не выключаю, што мне яшчэ прыйдзецца звяртацца ў суд»

*Праваабаронца Тамара Сяргей, якую ў дзень інаўгурацыі Аляксандра Лукашэнкі затрымалі на чыгуначным вакзале Мінска і абвінавацілі ў крадзяжы, падала скаргі Генпракурору Беларусі Аляксандру Канюку і міністру ўнутраных спраў Ігару Шуневічу. Яна лічыць, што супрацоўнікі міліцыі, якія праводзілі затрыманне, не мелі для гэтага дастатковых падстаў і павінны быць прыцягнуты да адказнасці.*

Аб гэтай гучнай і адначасова дзікай гісторыі “Народная Воля” пісала падрабязна.

Юрыст Тамара Сяргей і актывісты грамадскай ініцыятывы «Супраць беззаконнасці ў пракуратуры і судах» 6 лістапада хацелі трапіць на інаўгурацыю Аляксандра Лукашэнкі, каб паспрабаваць перадаць кіраўніку дзяржавы калектыўную заяву – 43-ю па ліку. Сустрэчу прызначылі на 10 гадзін раніцы на чыгуначным вакзале, каб адтуль разам паехаць да Палаца Незалежнасці. Тамара Сяргей спазнілася і прыехала на вакзал прыкладна ў 10.15. І адразу трапіла ў дзіўную сітуацыю.

Да актывістаў падышлі супрацоўнікі міліцыі – падпалкоўнік **Сяргей Гаркавы** і старшы прапаршчык **Сяргей Махнач** у кампаніі маладой жанчыны, якая, як сцвярджала Тамара Сяргей, выглядала як чалавек, залежны ад наркотыкаў ці алкаголю. Тая абвінаваціла Сяргей у крадзяжы спачатку кашалька, потым 300 долараў. Праваабаронцу затрымалі і пратрымалі ў міліцэйскім пастарунку амаль 4 гадзіны. Ніякага чужога кашалька, ніякіх грошай у Сяргей, зразумела, не знайшлі. Склалі спачатку пратакол аб затрыманні, потым – пастанову аб вызваленні і адпусцілі. Зразумела, што да Палаца Незалежнасці, дзе праходзіла інаўгурацыя, ехаць сэнсу ўжо не было.

– Улічваючы, што цяпер час зацішша, мяне ніхто не турбуе, я пачала займацца ўласнай абаронай, – расказвае Тамара Сяргей. – Накіравала скаргі Генеральнаму пракурору Беларусі і міністру ўнутраных спраў. У скаргах апісала сітуацыю, у якую трапіла, і паставіла перад вышэйшымі чынамі праваахоўнай сістэмы шэраг пытанняў.

Паводле сцвярджэння грамадзянкі Тарасавай, у яе нібыта адкрыта быў выкрадзены не кашалёк, а 300 долараў ЗША. І адбылося гэта каля 10 гадзін на трэцім паверсе чыгуначнага вакзала каля абменнага пункта. Але ж я ўвайшла ў будынак вакзала на пачатку 11-й, на трэці паверх увогуле не падымалася. Для праверкі гэтых фактаў падпалкоўнік Гаркавы абавязаны быў паглядзець запіс відэакамер. Здавалася б, усё вельмі проста! Тым больш для міліцыянера ў такім званні! Аднак падпалкоўнік міліцыі пасля заявы Тарасавай не паглядзеў матэрыялы відэакамер і не даў даручэнне зрабіць гэта сваім падначаленым. Паверыў словам Тарасавай, адхіліў мае тлумачэнні і тлумачэнні маіх знаёмых. У яго не выклікаў пытанняў той факт, што Тарасава была на вакзале без рэчаў, што ў яе руках не было ні сумачкі, ні валізкі. Што мы – патэнцыяльны злодзей і яго саўдзельнікі – не сышлі з месца злачынства, а працягвалі знаходзіцца на вакзале. У яго практыцы часта такое здараецца?! І, калі казаць юрыдычнай мовай, Гаркавы без наяўнасці дастатковых падстаў парушыў маю асабістую недатыкальнасць і свабоду, здзейсніў самавольства ва ўжыванні ўладных паўнамоцтваў, ужыў у дачыненні да мяне сілу без належных падстаў, усклаў адказнасць за свае дзеянні на свайго падначаленага. І нарэшце, будучы афіцэрам і прадстаўніком праваахоўнай сістэмы Рэспублікі Беларусь, закрануў мае гонар і годнасць. І перад міністрам МУС я стаўлю пытанне аб правядзенні праверкі і прыцягненні падпалкоўніка Гаркавага, старшага прапаршчыка Махнача і грамадзянкі Тарасавай да адказнасці.

Я, між іншым, хацела патрапіць на прыём да міністра Шуневіча ў снежні (ён прымае раз у месяц). Пакуль мне ў гэтым было адмоўлена. Але я папрасіла, каб маю скаргу паклалі асабіста міністру на стол. І патлумачыла чаму: я лічу, што правакацыя ў дачыненні да мяне настолькі відавочная і прадстаўнікі праваахоўнай сістэмы, у тым ліку афіцэр, настолькі амаральна сябе паводзілі, што падобная сітуацыя патрабуе пільнай увагі менавіта з боку кіраўніцтва МУС і асабіста міністра ўнутраных спраў.

**– А грамадзянку Тарасаву спрабавалі знайсці?**

– На дадзены момант гэтая жанчына цікавіць мяне ў меншай ступені. Па-першае, я ўсё ж спадзяюся атрымаць вынікі праверкі, якая была распачата па гэтай сітуацыі. У мяне будзе магчымасць азнаёміцца з матэрыяламі праверкі, і гэта дазволіць даведацца, што гэта за асоба, дзе яна жыве. А па-другое, я ўпэўнена, што яна – няшчасны чалавек, страціла сябе ў жыцці і ёю проста скарысталіся для гэтай правакацыі.

Дарэчы, ужо на гэтым тыдні павінна быць скончана праверка. Не выключаю, што мне яшчэ прыйдзецца звяртацца ў суд, каб абараніць свае гонар і годнасць. З мяне ж спрабавалі зрабіць зладзейку! І я хачу, каб тыя, хто ў гэтым удзельнічаў, панеслі адказнасць.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ГАЗЕТА – ЧЫТАЧЫ

***Калі хочаш лепшай долі –***
***Дапамажы “Народнай Волі”.***
***У свеце ПРАЎДЫ жыць імкніся***
***І на газету падпішыся!***

Так, шаноўныя сябры, мы разам з Вамі змагаемся за лепшае жыццё.

У нас агульная мэта: захаваць Беларусь, падняць дабрабыт кожнай сям’і.

І слова ПРАЎДЫ, як ніштo іншае, спрыяе агульнанацыянальным інтарэсам.

Дык будзем разам і ў 2016 годзе!

Знайдзіце, калі ласка, магчымасць у чарговы раз падпісацца на “Народную Волю”.

Ёсць фінансавыя цяжкасці – можна аформіць падпіску не на 6 месяцаў, а на любы тэрмін, пазней падоўжыце. Галоўнае – застацца з любімай газетай.

*Вы – з “Народнай Воляй”, “Народная Воля” – з Вамі!*

**Рэдакцыя.**



